© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018


# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№12(107) Сьнежань 2002 December Год выд. 10.


## Чаму вучыць мудрасць нас у сьвяты Калядны час...

**...І дарасламу, і дзіцяці вядома гісторыя з'яўлення Збавіцеля свету, Госпада нашага Ісуса Хрыста. Ён нарадзіўся ад Прачыстае Дзевы Марыі падчас праўлення рымскага імператара (кесара) Актавіяна Аўгуста. І было гэта 2001 год таму.**

**...Першымі дазналіся пра нараджэнне Збавіцеля віфлiемскія пастухі. Раптам зьявіўся перад імі анёл Божы, і святло Гасподняе азарыла іх, яны ж разгубіліся. Анёл сказаў ім: "Не бойцеся, я абвяшчаю Вам вялікую радасць, якая будзе ўсім людзям. Цяпер нарадзіўся вам у горадзе Давідавым Збавіцель, Хрыстос. І вось вам знак, па якім вы пазнаеце Яго: вы знойдзеце Дзіця, спавітае ў яслях".**

З тае часіны мінула шмат стагоддзяў. Свет уступіў у першы век трэцяга тысячагоддзя. Але ці стаў чалавек лепшым у сваіх памкненнях і справах? Ці не выракся страху Божага, які ёсць пачатак мудрасці? Ці жывём па законах Божых?

Не, на вялікі жаль, чалавек усё яшчэ далёкі ад дасканаласці, ён усё яшчэ на шляху да Бога. І шлях гэты цярністы, нялёгкі і няпросты. Мноства людзей жывуць у бязвер'і, мноства грашаць, мноства забыліся пра Страх Божы. Між тым Святое пісанне пастаянна заклікае прабываць у страху Божым. Гаворка тут пра той страх, які ёсць дарам Духа Святога. Сярод сямі дароў Духа Святога дар страху Божага знаходзіцца на апошнім месцы. Але гэта не значыць, што ён найменш важны, паколькі менавіта страх Божы -- пачатак мудрасці. Мудрасць жа сярод дароў Духа Святога стаіць на першым месцы. І таму чалавеку ўсіх часоў, -- вучыць нас Царква, -- а сучаснаму асабліва, трэба жадаць страху Божага. Варта, аднак, усведамляць, што гэты страх, які зьяўляецца пачаткам мудрасці, не мае нічога агульнага з рабскім страхам. Гэты страх сыноўні.

Дык ці вызначаецца сучасны чалавек менавіта такім сыноўнім страхам Божым, які, перад усім, ёсць любоў? І вось што кажа нам Ян Павел ІІ: "Можна выказаць асцярогу (падстаў для гэтага дастаткова), што гегелеўская парадыгма *пана і нявольніка* больш уласціва свядомасці сучаснага чалавека, чым тая мудрасць, якая мае свой пачатак у сыноўнім страху Бога. З гегелеўскай парадыгмы нараджаецца філасофія насілля. Калі і існуе нейкая сіла, здольная паспяхова расправіцца з гэтаю філасофіяй, то гэта толькі Хрыстова Евангелле, якое адносінаю *пан-нявольнік* цалкам замянілася адносінаю *айцец-сын*. Гэтая адносіна -- айцец-сын -- спрадвечная. Яна старэйшая за чалавечую гісторыю".

Быццам адказваючы на выклік новага часу (з усімі яго жахамі і катаклізмамі), Пантыфік Ян Павел ІІ заключае наступнае: "Каб вызваліць сучаснага чалавека ад страху перад самім сабою, перад светам, перад іншымі людзьмі, перад сіламі гэтага свету, перад сістэмамі, перад усім тым, што ёсць сімптом нявольніцкага страху, перад тою вышэйшаю сілаю, якую веруючы чалавек называе Богам, трэба ад усяго сэрца жадаць, каб гэты чалавек насіў і развіваў у сваёй душы тую боязь Божую, у якой -- пачатак мудрасці".



Зразумела, такая боязь Божая -- стваральная, а не разбуральная... Вось чаму мы, адчыніўшы вароты новага веку, уваходзім у яго не толькі з надзеяй, але і са страхам Божым, які ёсць пачатак нашай мудрасці...

І вось чаму ў ціхую Каляднаю ноч, калі Хрыстос нарадзіўся з Дзевы Марыі, мы яднаемся ўсе разам на малітве. Мы просім Божае дзіцятка блаславіць нашы сем'і, шчодра адарыць сваёй ласкай, атуліць апекай, прынесці нам спакой, згоду і каханне, напоўніць нашы сэрцы радасцю і надзеяй на лепшае заўтра, аддаліць смутак і цярпенне.

Няхай жа Віфлiемская зорка асвеціць нашыя думкі і пачуцці, памкненні і справы. Няхай шчасціць усім нам кожны дзень Новага 2002 года!

**Г. ЧЫГІР**

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## Нова Радасьць

**Нова радасьць стала,**
**што йшчэ ня бывала:**
**над Бэтлееей зорка ясна**
**Сьвету засіяла.**

**Дзе Хрыстос радзіўся,**
**з Дзевы ўцелавіўся —**
**як чалавек пялёнкамі**
**убога спавіўся.**

**Пастушкі з ягняткам**
**перад тым Дзіцяткам**
**на калені упадаюць**
**Сына-Бога ўслаўляюць.**



## Вясёлых Калядаў!!!
## Шчасьлівага Новага 2003-га Году!!!





© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# СЭНАТАР МАККЕЙН: БЕЛАРУСЫ СТАЛІ АХВЯРАЮ БЫЛОЙ ПАДТРЫМКІ МАСКВОЙ РЭЖЫМУ ЛУКАШЭНКІ

Нядаўна ў Вашынгтоне адбылася канфэрэнцыя "Вось зла: Беларусь – прапушчанае зьвяно". Цэнтральнай падзеяй канфэрэнцыі стаў выступ на ёй сэнатара-рэспубліканца Джона МакКейна…

Напачатку свайго выступу Джон МакКейн адзначыў, што збліжэньне ЗША і Расеі адкрывае новыя магчымасьці пераменаў у Беларусі. Разам з тым ён адзначыў нэгатыўную ролю, якую адыгрывала Масква раней, падтрымваючы Аляксандра Лукашэнку.

(МакКейн:) "Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ня можа доўга існаваць у сьвеце, дзе ЗША і Расея зьяўляюцца стратэгічнымі партнэрамі, а ЗША ўсур'ёз вырашылі пакласьці канец злачынным рэжымам, чые паводзіны ўяўляюць для нас пагрозу.

Як гэта ўжо было ў СССР, ЗША і дэмакратычныя дзяржавы Эўропы мусяць аб'яднацца з дэмакратычнай апазыцыяй Беларусі і ўзначаліць палітычную кампанію па вызваленьні Беларусі з-пад прыгнёту апошняга эўрапейскага дыктатара.

Беларусы сталі ахвяраю былой падтрымкі Масквой рэжыму Лукашэнкі. Віна за тое, што адбылося – не ў асаблівасьцях нацыянальнай культуры, а ў расейскай падтрымцы тыраніі ў Менску. Так падаецца, што зараз гэтая падтрымка скончаецца. Калі гэта сапраўды так, то для нас пачынаецца новы дзень. Дагэтуль сьмелая і кансалідаваная беларуская апазыцыя не магла пераадолець расейскі бар'ер".

На думку сэнатара МакКейна, беларуская ўлада імкліва губляе стабільнасьць.

"Я не прэтэндую на тое, каб спрабаваць спрагназаваць будучыню Лукашэнкі. Адная я дакладна ведаю: дні ягонага беззаконага кіраваньня зьлічаныя. Падмурак, на якім трымаецца рэжым, разбураецца. Варта адзначыць і зьмяншэньне рэйтынгу, прачуханку, якую зрабіў Пуцін амбіцыям Лукашэнкі стварыць саюз роўных. Шмат членаў ураду Лукашэнкі, у тым ліку і прадстаўнікі ваенных структураў і спэцслужбаў, незадаволеныя ягоным кіраваньнем. Ён ізаляваны ня толькі ад сьвету і беларускага народу, але і ад уласнага ураду. Гэты рэжым няўстойлівы з прычыны агульнага разуменьня, як дома, гэтак і за мяжою, што гэты рэжым незаконы, а таксама з нагоды новага прэсынгу з боку прэзыдэнта Пуціна".

Сэнатар МакКейн мяркуе, што мэтаю беларускіх дэмакратаў мусіць быць вызваленьне ня толькі ад кіраваньня Лукашэнкі, але і ад залежнасьці ад Расеі.

"На тле пагрозы ператварэньня Беларусі ў 90-ты расейскі рэгіён Лукашэнка вярнуўся ў Менск пасьля жнівеньскай сустрэчы з Пуціным нацыяналістам, які пакаяўся, гарантам вечнага сувэрэнітэту краіны, які праклінае любыя спробы Расеі паглынуць Беларусь. Нарэшце, Лукашэнка і беларускія дэмакраты хоць у нечым сышліся. Аднак сам жа Лукашэнка і падрывае сувэрэнітэт Беларусі, паколькі краіна пад ягоным незаконым кіраўніцтвам выжывала выключна, як разьменная манэта для Масквы. Мэтаю для беларускай апазыцыі зьяўляецца ня толькі вызваленьне беларускага народу ад тыраніі Лукашэнкі, але і вызваленьне краіны ад рабалепных адносінаў з нацыяй, якая ніколі не выкарыстоўвала свае магчымасьці на карысьць народу Беларусі".

Джон МакКейн адзначае, што незаконымі пастаўкамі зброі рэжымам-ізгоям Беларусь ператварылася ў пагрозу нацыянальнай бясьпецы ЗША.

"Пад кіраўніцтвам Лукашэнкі Беларусь пастаўляла ўзбраеньні ў Ірак, Іран, Лівію і Судан. Паводле Дзяржэпартамэнту ЗША, маецца шмат сьведчаньняў з сур'ёзных крыніцаў, што Беларусь уцягнутая ў працэс пастаўкі зброі дзяржавам і групоўкам, якія падтрымліваюць тэрарызм, а таксама падрыхтоўкі ваеных адмысловцаў гэтых дзяржаваў.

Упершыню за ўсю сучасную гісторыю Беларусі ў якасьці сувэрэнай дзяржавы дзеяньні злачынага ураду гэтай краіны пагражаюць бясьпецы Злучаных Штатаў. Гэта ня проста чарговы рэжым, які прыгнятае ўласны народ. Урад Лукашэнкі паставіў сучасныя супраць-паветраныя ўзбраеньні краіне, зь якой Злучаным Штатам, хутчэй за ўсё, давядзецца весьці вайну. І гэтае ўзбраеньне можа і будзе выкарыстоўвацца Іракам для зьнішчэньня амэрыканскіх пілётаў. У дадзеным выпадку справядліва сказаць, што сябра нашага ворага – наш вораг".

Паводле амэрыканскага сэнатара, рубіконам стала тэрарыстычная атака на Амэрыку 11 верасьня летась.

"Лукашэнка так і не зразумеў, што пасьля 11 верасьня летась ЗША ня будуць больш цярпець саюзьнікаў і пастаўшчыкоў такіх злачынных рэжымаў, як Ірак Садама Гусэйна. Дзякуючы Лукашэнку Беларусь апынулася сярод такіх краінаў, як Ірак, Іран і Паўночная Карэя, якія ізаляваныя ад сучаснай супольнасьці нацыяў і сутыкаюцца з новым ультыматумам Амэрыкі: зьмяніць свой палітычны курс ці зьнікнуць. 11 верасьня адцiснула на другі плян незаконасьць абраньня Лукашэнкі і маніпуляцыі, што прывялі да працягу тэрміну ягоных паўнамоцтваў. Аднак менавіта 11 верасьня адкрыла нам вочы на Беларусь, як на пагрозу нацыянальнай бясьпецы. 11 верасьня таксама аб'яднала ЗША і Расею, у тым, што можа рэхам адгукнуцца ў Менску".

Да тэмы новай палітыкі Расеі сэнатар МакКейн зьвятраўся падчас сваёй прамовы неаднаразова.

"Заклікі да пазытыўных пераменаў зыходзяць таксама ад уплывовых асобаў па-за межамі Крамля, якія бачаць шкодны ўплыў, які робіць беларуская дыктатура на разьвіцьцё расейскай дэмакратыі. Лідэр Саюзу Правых Сілаў Барыс Нямцоў падтрымлівае кантак з Аб'яднанай грамадзянскай партыяй і зьяўляецца актыўным прыхільнікам пераменаў у Менску. Рэжым Лукашэнкі разглядае яго як сур'ёзную пагрозу. Замест удзелу ў канфэрэнцыі беларускай апазыцыі Нямцоў і ягоныя калегі былі вымушаныя вярнуцца ў Маскву супраць іх волі. Патрабаваньні рэформаў у Беларусі, агучаныя Масквою і умацаваныя актыўнай і кансалідаванай заходняй кампаніяй у падтрымку свабоды ў Беларусі, могуць зьнясіліць жалезную хватку рэжыму. Заходняя палітыка мусіць канцэнтравацца на нашых новых адносінах з Масквою ў мэтах зьмяненьня беларускага рэжыму".

Джон МакКейн падкрэсьліў, што дзеля дасягненьня пераменаў у Беларусі неабходна ўзгодненая палітыка Амэрыкі і Эўропы.

"ЗША мусяць шчыльна супрацоўнічаць з нашымі эўрапейскімі саюзьнікамі, за сьпіною якіх усё адбываецца, каб разьвіваць і падтрымліваць агульную агрэсіўную палітыку па зьмене рэжыму ў Беларусі. Зразумелая і ўпэўненая палітыка саюзьнікаў па Атлянтычным блёку ўмацуе ізаляцыю рэжыму і прагу да пераменаў, якая зыходзіць з самой Беларусі".

У сваёй прамове сэнатар МакКейн заклікаў прадухіліць зьяўленьне Аляксандра Лукашэнкі на саміце НАТА ў Празе. Як вядома, гэты погляд падзяляў і ўрад Чэхіі, які на мінулым тыдні адмовіў Аляксандру Лукашэнку ў выдачы візы для ўдзелу ў саміце НАТА. Сэнатар МакКейн выказаўся за тое, каб Беларусь была выключаная з праграмы супрацоўніцтва з НАТА "Партнэрства дзеля міру".

"Агульныя мэты, што аб'ядноўваюць членаў НАТА, робяць недапушчальнымі зьяўленьне на саміце ў Празе апошняга эўрапейскага дыктатара. Агульныя мэты альянсу патрабуюць перагледзець ролю Беларусі ў праграме "Партнэрства дзеля міру". Некаторыя зь яе ўдзельнікаў не адпавядаюць званьню паўнавартасных дэмакратыяў. Аднак ніводная зь іх ня можа быць названая і суцэльнаю дыктатураю. Ніводная, акрамя Беларусі Лукашэнкі. НАТА неабходна спыніць сяброўства Беларусі ў "Партнэрстве дзеля міру" і спыніць усялякія кантакты зь менскім урадам да тае пары, пакуль прэзыдэнт Лукашэнка будзе заставацца ва ўладзе".

Паводле Джона МакКейна, палітыка заходніх краінаў адносна Беларусі мусіць палягаць ня толькі ў ізаляцыі афіцыйнага Менску, але і ў спрыяньні разьвіцьцю грамадзянскай супольнасьці, у падрыхтоўцы беларускай апазыцыі да кіраваньня краінаю пасьля сыходу Лукашэнкі.

"Дэмакратычныя дзяржавы Атлянтычнага рэгіёну мусяць аказваць сталую падтрымку, каб падрыхтаваць беларускую апазыцыю да кіраваньня дзяржаваю пасьля сыходу Лукашэнкі. Разам з нашымі эўрапейскімі саюзьнікамі мы мусім праводзіць палітыку пабудовы інстытутаў незалежнай Беларусі – грамадзянскіх ініцыятываў, незалежных мэдыяў, моцных палітычных партыяў у мэтах стварэньня палітычнай прасторы па-за сфэраю кантролю рэжыму. Роля актывістаў недзяржаўных арганізацыяў і палітычных партыяў стала вызначальнаю у справе мірнага адхіленьня ад улады сэрбскай апазыцыяй Слабадана Мілошавіча. У рэшце рэшт, як і ў Сэрбіі, беларускія апазыцыйныя сілы застануцца сам насам з рэжымам Лукашэнкі, паколькі цяжар адказнасьці і прывілей вызваленьня ўласнай краіны па-ранейшаму нележаць ім. Міжнароднай супольнасьці трэба працягваць курс на ізаляцыю Беларусі і вітаць новы падыход Масквы да беларускай праблемы".

Напрыканцы сваёй прамовы сэнатар МакКейн зьвярнуўся да прадстаўнікоў беларускай апазыцыі. якія ўдзельнічалі ў канфэрэнцыі.

"Лідэры беларускай апазыцыі, якія бяруць удзел у нашай канфэрэнцыі, зьяўляюцца жывым доказам таго, што іх народ прагне свабоды ня менш за іншыя. Вашая барацьба за перaадоленьне тыраніі і страху, што пануюць у вашай краіне, натхняюць усіх нас, тых, чые перакананьні не праходзяць штодзённага выпрабаваньня на трываласьць, як вашыя, і хто ня плаціць настолькі вялікую цану за свае погляды. Вы – патрыёты, чыя любоў да Радзімы зьменіць ходу гісторыі. Мы на вашым баку.

Аляксандар Лукашэнка – апошні пасажыр савецкага карабля, які тоне ў акіяне гісторыі. Мужныя людзі пад ціскам зьнешняга ўзьдзеяньня ў свой час дамагліся развалу СССР. Кіраваньне Лукашэнкі зьяўляецца абразаю каштоўнасьцяў, якія перамаглі амаль на ўсім эўрапейскім кантынэнце пасьля краху імпэрыі. Ягоны рэжым будзе ўяўляць пагрозу Амэрыцы і Эўропе дакладна столькі часу, колькі спатрэбіцца цывілізаванаму сьвету на вырашэньне гэтай праблемы.

Знакаміты беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў ў свой час заўважыў: "Лукашэнка і дэмакратыя – словы несумяшчальныя". Вобраз свабоднай і дэмакратычнай Беларусі, якая не аглядаецца назад і якая скінула з сябе кайданы Лукашэнкі, натхняе беларускіх патрыётаў, чыя маральная адданасьць дэмакратычным пераўтварэньням пакладзе канец кіраваньню апошняга эўрапейскага дыктатара".

Гэтымі словамі сэнатар Джон МакКейн скончыў свой выступ на канфэрэнцыі "Вось зла: Беларусь – прапушчанае зьвяно".

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Васьмі беларускім чыноўнікам забаронены ўезд у 14 з 15 краін Еўрасаюза

20 лістапада Савет міністраў Еўрапейскага Саюза, які засядаў на ўзроўні міністраў замежных спраў, распаўсюдзіў тэкст пастановы па Беларусі. У ім утрымліваецца спіс чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у 14 з 15 краін ЕС.

У спісе: прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Урал Латыпаў, прэм'ер-міністр Генадзь Навіцкі, міністр абароны Леанід Мальцаў, міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў, міністр замежных спраў Міхаіл Хвастоў, міністр юстыцыі Віктар Галаванаў і старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Леанід Ерын. Большасць з названых чыноўнікаў – гэта расейскія КГБ-істы…

У пастанове гаворыцца, што Савет міністраў Еўрасаюза разгледзеў сітуацыю ў Беларусі на падставе сваёй заявы па гэтай краіне ад 21 кастрычніка 2002 года, у якой чарговы раз выказваліся сур'ёзная занепакоенасць станам спраў і патрабаванне да беларускіх улад не дапусціць спынення дзейнасці Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ.

Савет міністраў ЕС прыняў да ведама, што большасць дзяржаў -- членаў Еўрасаюза, асабліва большасць краін шэнгенскай зоны, зробяць "неабходныя нацыянальныя захады з мэтай прадухіліць уезд на іх тэрыторыю прэзідэнта Беларусі, кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі, прэм'ер-міністра, чатырох міністраў, а таксама старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі".

Усе міністры замежных спраў краін ЕС, за выключэннем Партугаліі, выказаліся ў падтрымку прапанаванага Даніяй дакумента аб забароне на ўезд у краіны ЕС А.Лукашэнкі і іншых афіцыйных асоб Беларусі. Гэтыя краіны пакідаюць за сабою права на падставе шэнгенскага заканадаўства не выдаваць уязныя візы беларускім чыноўнікам. Пры гэтым спіс персон нон-грата скарочаны з пяцідзесяці чалавек да васьмі. Выключэнне для гэтых асоб можа быць зроблена ў выпадку неабходнасці іх удзелу ў мерапрыемствах па лініі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. Аднак названыя чыноўнікі будуць атрымліваць не шэнгенскую, а нацыянальную візу. Партугалія, якая старшынствуе зараз у АБСЕ, патлумачыла сваю пазіцыю тым, што забарона можа перашкодзіць правядзенню 6--7 снежня ў Порту пасяджэння міністраў замежных спраў краін -- членаў АБСЕ, паколькі парадак дня пасяджэння павінен быць ухвалены ўсімі яе членамі. Прадстаўнік Партугаліі прапанаваў разгледзець пытанне аб санкцыях у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў пасля 7 снежня.

################################################

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# "TAGESSPIEGEL": ПАЗЫТЫЎНЫ ЎПЛЫЎ РАСЕІ НА БЕЛАРУСЬ НЕМАГЧЫМЫ

Камэнтуючы сустрэчу ў Крамлі, журналіст нямецкай "Tagesspiegel" лічыць цалкам натуральным тое, што Лукашэнка, нібыта забыўшыся пра сваю нядаўнюю антырасейскую рыторыку, зноў павярнуўся тварам да Масквы. Як вынікае з публікацыяў у шэрагу нямецкамоўных выданьняў, цалкам натуральнымі выглядаюць і паводзіны расейскага лідэра.

Як піша швайцарская "Tagblatt", адчуўшы рэальную ізаляцыю з боку Захаду, беларускі кіраўнік вымушаны быў тэрміно̀ва ўмацоўваць стасункі са сваім усходнім партнэрам. "Беларусь заўсёды была і назаўжды застанецца найлепшым сябрам Расеі", — заявіў ў Крамлі Аляксандар Лукашэнка.

Усьведамляючы, што ягоная краіна апынулася ў поўным тупіку, менскі лідэр адмовіўся ад сваёй рэзкай крытыкі на адрас "старэйшага брата". Затое, падпісаўшы пагадненьні аб інтэграцыі з Расеяй, Лукашэнка, як і трэба было чакаць, адмовіўся і ад нядаўна абяцанага курсу на празаходняе разьвіцьцё, — пішуць нямецкая "Tagesspiegel" і аўстрыйская "Der Standard". Аглядальнікі пры гэтым зьвяртаюць увагу і на наступную акалічнасьць: у той час, як Лукашэнка чарговы раз дэманструе свае зьмены ў настроі, Пуцін па-ранейшаму застаецца эмацыйна стрыманым.

Як піша "Frankfurter Allgemeine", вонкава "браты" нібыта паміруліся, аднак пры гэтым відавочна, што старэйшы брат у сваім стаўленьні да малодшага дэманструе надзвычай памяркоўны настрой.

Паводле назіральнікаў, праўдападобна, што Менск паступова пачынае саступаць Маскве і такім чынам адпавядаць новай арыентацыі расейска-заходніх дачыненьняў. Відавочна, што Захад, па сутнасьці, здаў Беларусь Расеі. Апошнія санкцыі Эўропы супраць беларускага кіраўніцтва ёсьць доказам гэтае тэзы.

Як піша "Frankfurter Rundschau", нарэшце эўрапейцы выразылі ўзгадніць свае інтарэсы і дзеяньні ў дачыненьні да афіцыйнага Менску. Апошнім часам ўсе сталі адзіныя ў тым, што беларускаму дыктатару нельга далей даравацъ нічога. Зразумела, агульныя санкцыі Эўразьвязу нельга разглядаць як агульную замежную палітыку. Гэта ўсяго толькі крок на шляху дастаткова складанай рэнацыяналізацыі Эўропы.

Падсумоўваючы перамовы ў Крамлі, нямецкамоўныя выданьні не пакідаюць па-за ўвагай і тэму магчымага далейшага палітычнага разьвіцьця ў Беларусі. Газэта "Tagesspiegel" піша, што ў Менску па сутнасьці ніхто ня верыць ў пазытыўны ўплыў Расеі на беларускага дыктатара. "Тое, што дэмакратыя прыйдзе ў Беларусь з боку Ўсходу, цалкам нерэальна", — гаворыць у інтэрвію выданьню адзін зь лідэраў беларускай апазыцыі.

****************************************************

# і... ПОЛЬСКАЯ ПРЭСА КАМЭНТУЕ ВІЗЫТ А. ЛУКАШЭНКІ Ў РАСЕЮ

*Назіральнікі адзначаюць, што адкінуты Захадам Лукашэнка адчайна шукаў паратунку і падтрымкі ў Маскве.*

"Гэтым разам – прынамсі, так выглядае – спатканьне кіраўнікоў дзяржаваў, што ўваходзяць у склад саюзу Расеі і Беларусі, прайшло спакойна. Пуцін не казаў, як у чэрвені, пра беларускіх мух, якія хочуць сядзець на расейскай катлеце, не прапаноўваў, як у жніўні, інкарпарацыі Беларусі і не пагражаў, як напярэдадні "Газпрам", адключэньнем газу ўзімку", – піша сёньняшняя "Gazeta Wyborcza".

"У сваю чаргу крамлёўскі госьць, – працягвае штодзённік, – не параўноўваў Пуціна да Сталіна і не пагражаў яму, што адвернецца да Расеі сьпіной і кінецца ў абдымкі Захаду, што, зрэшты, цяпер было б вельмі цяжка зрабіць. Яшчэ зусім нядаўна пасваранымя прэзыдэнты былі надзвычай ветлівыя".

Газэта адзначае, што нягледзячы на абяцаньне Ўладзімера Пуціна не пакінуць суседа без газу, няясным засталося, колькі гэты газ будзе для Беларусі каштаваць.

"Гаспадар Крамля быў настолькі ласкавы, што супакойваў свайго госьця, які быў заклапочаны новым расейскім законам аб грамадзянстве, што абмежаваньні, якія ўтрымлівае гэты закон, беларускіх грамадзянаў не датычаць. Лукашэнка прыняў гэтую заяву зь вялікай палёгкай, бо тысячы грамадзянаў беднай Беларусі ёзьдзяць у Расею нават па хлеб", – піша "Gazeta Wyborcza".

Іншыя выданьні зьвяртаюць увагу на словы Пуціна, якія сказаў, што "цягам апошняга дзесяцігодзьдзя Расея столькі ўсяго аддала, што цяпер ня будзе нічога аддаваць і саступаць, а будзе толькі ўсё браць".

Паводле аглядальнікаў, гэта значыць, што нягледзячы на памяркоўны тон размоваў кіраўнікоў дзяржаваў, Масква ўсё адно не пакінула намеру поўнасьцю падпарадкаваць сабе Беларусь, нават калі не праз палітычныя дамовы, дык шляхам змушэньня да продажу расейскаму капіталу найбольш цікавых беларускіх прадпрыемстваў.

Некаторыя адмыслоўцы таксама адзначаюць, што Масква, якая апошнім часам намагаецца захаваць добрыя адносіны з Захадам, напэўна рызыкуе, прымаючы ў свае абдымкі адкінутага Эўрапэйскім Зьвязам і Злучанымі Штатамі беларускага кіраўніка

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Капітуляцыя?

Візіт у Маскву Аляксандра Лукашэнкі адбыўся адразу ж пасля закрыцця шлагбаума для беларускіх топ-чыноўнікаў, у тым ліку самага галоўнага, у накірунку Амерыкі і Заходняй Еўропы. А яшчэ раней мела месца буйная сварка паміж кіраўніцтвам Расіі і Беларусі, якая грунтавалася перш за ўсё на розніцы ў падыходах да будаўніцтва так званага саюза Беларусі і Расіі і "газавай атацы" расійскага бізнесу, які жадаў гандляваць "галубым палівам" з Беларуссю па рынкавых коштах.

Усведаміўшы ўсю сур'ёзнасць пагрозы ўсебаковай ізаляцыі для сваёй краіны і ўбачыўшы адсутнасць рэакцыі на заходняе шлагбаумнае "гвалтаванне" як з боку Крамля, так і МЗС Расіі, "бацька", мяркуючы па ўсім, вырашыў спыніць пінг-понг паміж Захадам і Усходам і накіраваўся ў Маскву канчаткова здавацца. Чаго толькі каштуе яго фраза: "Сёння для рускага чалавека Беларусь -- гэта той рубеж, з якога ён ніколі не адступіць. Не тое, што ён здасць -- не здасць. Вялікая Расія, а адступаць няма куды, ззаду -- Масква, -- быццам палітрук Клачкоў старанна, спрабуючы ўсімі сваімі сіламі спадабацца, амаль аддацца гледачам, выводзіў словы А.Лукашэнка. -- Таму мы спакойна ўспрымаем гвалт нашых недругаў".

Як мне здалося, на Пуціна гэтыя словы ніякага ўражання не зрабілі. Расійскі прэзідэнт даў зразумець, што аб'яднанне з Беларуссю ў разуменніі Лукашэнкі Расіі не патрэбна: "Расія за апошняе дзесяцігоддзе так шмат усяго раздала, што для нас ужо пытанне не стаіць чагосьці аддаваць і здаваць. Мы будзем толькі ўсё браць". Але тут жа агаварыўся: "толькі ў рамках агульнапрынятых міжнародных норм і дамоўленасцей, адпавядаючых нацыянальным інтарэсам як Расійскай Федэрацыі, так і нашых партнёраў".

Няцяжка прадставіць, у якіх тонах на фоне канчатковага закрыцця заходніх дзвярэй для беларускага рэжыму праходзіла сустрэча паміж лідэрамі Беларусі і Расіі і хто ў ёй іграў першую скрыпку. Пуцін, і гэта відавочна, своечасова і імгненна учапіўся за разгубленасць свайго заходняга "брата" і мёртвай хваткай заключыў яго ў свае "братэрскія" абдымкі. Нават даў яму нейкія там "гарантыі падтрымкі сваёй падтрымкі ў супрацьстаянні з Захадам".

Выйшаўшы да прэсы, Уладзімір Уладзіміравіч даў усё ж такі выгаварыцца і Аляксандру Рыгоравічу, нібы аддаючы яму нейкую -- мінімальную -- ініцыятыву. Апошні ўключыў старую пласцінку пра тое, што "Расія і Беларусь маюць намеры ўзмацніць каардынацыю дзеянняў на міжнароднай арэне", і што апошняя сустрэча "надала расійска-беларускім адносінам новы імпульс" і выказаў задавальненне сустрэчай, якая "дазволіла прасунуцца ў разуменні існуючых праблем, а таксама ў разуменні шляхоў іх вырашэння".

Не ведаю, як вас, паважаныя чытачы, а мяне ўжо трасе ад усіх гэтых імпульсаў, і хочацца, прабачце, бляваць ад чарговага "прасоўвання ў разуменні існуючых праблем", на якое патрабавалася ажно восем гадоў. Восем гадоў, між іншым, нашага з вамі жыцця, паважаныя сябры. Жыцця, якое, дарэчы, не стаіць на месцы...

Сёння, на мой погляд, відавочна адно. Цяперашняе кіраўніцтва Беларусі выдатна разумее, што любая прапагандысцкая рыторыка -- ці то празаходняя, ці то прарасійская -- не каштуе абсалютна нічога, калі за ёю не стаяць канкрэтныя грошы. Плаваючая ў замерзлай лужыне ільдзіна, якая не мае сувязі ні з тым берагам, ні з гэтым, не мае шанцаў на доўгае існаванне.

Ведаючы, што адбудаваная на Беларусі сістэма ўлады, якая прадугледжвае прамое і абавязковае падпарадкаванне на ўсіх узроўнях, патрабуе не проста грошай, а вялікіх грошай, лічу капітуляцыю А.Лукашэнкі ў Маскве натуральным і абсалютна прадказальным працягам палітыкі, якую сёння прапануе грамадзянам Беларусі "Чырвоны дом". Сёння, на мой асабісты погляд, для гэтых людзей ніякія маральныя каштоўнасці і інтарэсы краіны не маюць сэнсу, а ўсе словы ў іх вуснах -- цынізм і хлусня. Галоўнае для іх -- захаваць уладу і знайсці грошы для існавання сваёй гоп-кампаніі. А што будзе заўтра з краінай, з людзьмі -- іх абсалютна не цікавіць, і, як казаў калісьці вядомы герой, сёння яны нас прададуць, а заўтра зноў купяць і зноў прададуць, але ўжо даражэй.

Алесь СІЛІЧ. (Народная Воля)

****************************************************

# Зьміцер Бандарэнка: Пуцін ратуе беларускага дыктатара...

*Нагадаем, што канфлікт паміж лідэрамі дзьвюх дзяржаваў быў сур'ёзным. Ва ўсіх на памяці засталіся вядомыя словы Пуціна аб "падзеле мух і катлет" і абурэньне Лукашэнкі: маўляў, нават Сталіну не прыходзіла ў галаву паступаць так зь Беларусяй, як Пуцін. Тады кіраўнік Расеі меркаваў, па сутнасьці, падзяліць рэспубліку на некалькі частак і ўвесьці іх у склад Расейскай Федэрацыі. Пасьля быў скандаль з пастаўкамі расейскага газу ў Беларусь і блякада Захаду адносна Лукшэнкі.*

"Літаральна некалькі дзён таму Эўропа закрыла ўезд для Лукашэнкі, тое самае зрабіла Амэрыка, і падставай для гэтага сталі найгрубейшыя парушэньні правоў чалавека ў Беларусі. Акрамя таго, амэрыканцы абвінавачваюць Беларусь у пастаўках зброі Іраку. Літаральна адразу пасьля гэтых падзяў прэзыдэнт Расеі Ўладзімер Пуцін запрашае Лукашэнку ў Маскву. Гэта можна расцэньваць як тое, што Расея кідае ратавальнае кола беларускаму дыктатару. Пуціна цалкам не цікавіць парушэньне правоў чалавека ў Беларусі, яму ўсё адно, што ў Беларусі зьнікаюць вядомыя палітыкі і журналісты, яго не цікавяць абвінавачваньні Лукашэнкі ў кантактах з Іракам і іншымі рэжымамі-ізгоямі. Як заявіў расейскі прэзыдэнт, Расея занадта шмат аддавала і зараз зьбіраецца толькі браць. Зразумела, што гэта "Белтрансгаз", нафтавыя заводы і, магчыма, уся Беларусь. У выніку, надзеі некаторых заходніх палітыкаў і дыпляматаў на тое, што Пуцін навучыць Лукашэнку дэмакратыі, выглядаюць вельмі наіўнымі. Тэма правоў чалавека, тэма дэмакратыі ў Беларусі на прэсавай канфэрэнцыі Пуціна і Лукашэнкі ўвогуле не паўставала. Усё гэта можна расцаніць як дапамогу рэжыму Лукашэнкі", -- так пракамэнтаваў візыт Аляксандра Лукашэнкі ў Маскву, які адбыўся 27 лістапада, каардынатар грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя '97" Зьміцер Бандарэнка.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Лукашэнка далучыць Беларусь да Расеі, да гэтага трэба неадкладна рыхтавацца...

...Генадзь Селязьнёў прыляцеў у Менск. Візыт сьпікера Дзярждумы аднадзённы. У першай палове дня Генадзь Селязьнёў быў прыняты прэзыдэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. На другую палову дня запланаваная сустрэча спадара Селязьнёва з кіраўнікамі абедзьвюх палат беларускага парлямэнту - старшынём Савету Палаты прадстаўнікоў Вадзімам Паповым і старшынём Савету Рэспублікі Аляксандрам Вайтовічам.

Як і меркавалася, сустрэча з Лукашэнкам прайшла сардэчна, старыя сябры зноў цалкам паразумеліся. Падчас сустрэчы з Генадзем Селязьнёвым Аляксандар Лукашэнка заявіў, што "курс на збліжэньне з Расеяй будзе нязьменным". Паводле словаў беларускага лідэра, **"Саюз з Расеяй аб'ектыўна неабходны для Беларусі: па-першае, у сілу эканамічных прычынаў, па-другое, мы - адзіны народ. Ні Пуціну, ні Лукашэнку - нікому не ўдасца нівэліраваць тое, што беларусы і расейцы - адзіны народ".** Лукашэнка адзначыў, што рускі чалавек ніколі не будзе іншаземцам на тэрыторыі Беларусі. І падкрэсьліў, што Расея не павінна ісьці супраць Беларусі нават у выпадку ціску з боку Захаду...

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

**Нам надзвычай прыемна ведаць, што нашу газэту чытаюць людзі, якія ўмеюць і хочуць думаць...**

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



Ніл ГІЛЕВІЧ

# Пад акупацыяй

***Урывак з аўтабіяграфічнай кнігі-споведзі «Між роспачу і надзеяй. Абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары».***

***Гэту кнігу я пачаў пісаць у чэрвені 1998 года, у бальніцы, ачуньваючы ад інфаркту. Напісаўшы досыць ладны кавалак (старонак дзвесце машынапісу), запынюся ў працы, думаў – на нядоўга, дзеля перадыху, аказалася – на добрыя тры гады. Каб пісаць далей – спатрэбілася трохі падвучыць «свой час, свой век, сваю эпоху», чым гэтыя гады і займаўся, з адхіленнямі на іншыя надзённыя творчыя справы. З лета мінулага года зноў засеў за рукапіс. Калі закончу – адзін Бог ведае.***

***Урывак з кнігі прапануем чытачам упершыню.***

***Аўтар***

Беларусы таго пакалення, да якога належу я, пераказваючы або пішучы сваю аўтабіяграфію, звычайна зазначалі: «вучобу ў школе на тры гады перапыніла вайна», маючы на ўвазе, што тры гады цягнулася нямецка-фашысцкая акупацыя Беларусі. Гэта не зусім так. Ці, дакладней, гэта датычыць далёка не ўсіх маіх равеснікаў, якія свае дзіцячыя і падлеткавыя гады правялі ў акупаванай немцамі Беларусі. Цалкам менавіта такі, трохгадовы перапынак у вучобе выпаў на долю школьнікаў усходніх раёнаў Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Гомельшчыны – тэрыторыя, якая знаходзілася ў распараджэнні вайсковых нямецкіх улад і не адносілася да гэтак званай «Беларутэніі», што была ў веданні гітлераўскага гебітс-камісарыяту на чале з гаўляйтэрам. З другога боку, школьнікі крайніх заходніх тэрыторый Беларусі, уключаных у склад Рэйха (Беласточчына і заходняя Гарадзеншчына), а таксама школьнікі гарадоў «Беларутэніі», дзе аж да лета 1944-га панавала нямецкая ўлада, хадзілі ў школу, вучыліся пад акупацыяй усе тры гады. У выніку яны, не страціўшы ў школьнай вучобе ні году, ні паўгоду, паступалі пасля вайны ў інстытуты і ў Беларускі дзяржаўны універсітэт на тры гады маладзейшымі за сваіх усходнебеларускіх равеснікаў. (Калі я прыйшоў на першы курс філфака БДУ, мой аднагодак са Слоніма Алег Лойка ўжо быў на чацвёртым курсе). Што ж датычыць школьнікаў вясковых школ цэнтральнай Беларусі («Беларутэніі»), то тут – як каму пашанцавала: хто вучыўся пад акупацыяй год, хто – год з гакам, а хто і ўсе два. Але тры гады не вучыўся ніхто. Восенню 1942-га ўжо набірала сілу партызаншчына, і настаўнікам, якія лічыліся службоўцамі акупацыйнай улады, працаваць стала немагчыма: народныя мсціўцы прыраўнівалі іх да здраднікаў.

Я пад акупацыяй вучыўся ў школе фактычна толькі адзін год – закончыў чацвёрты клас у сваёй Слабадзе. У наступны ж пяты (ужо ў суседняе мястэчка Гайна) пахадзіў усяго тыдні тры, не болей – і школа была зачынена. У яе вялікім новым будынку (тыповым, пастаўленым за год да вайны) размясціўся паліцэйскі гарнізон. Але зусім не надоўга. На пачатку зімы, ад страху быць разгромленымі, яго ваякі перабраліся ў суседні гарнізон у Лагазе, а школу – новы, цудоўны будынак – партызаны спалілі. «Каб не было куды вярнуцца «бобікам» (так пагардліва называлі тых, хто пайшоў у паліцыю). Пазней, пасля вайны, гэтае бяздумнае, нічым не апраўданае спажаранне школы будзе даплюсавана да зруйнаванняў, што ўчынілі на Беларусі нямецка-фашысцкія акупанты, – як і тысячы іншых спаленых ці разбураных «ляснымі салдатамі» школ і розных казённых будынкаў, узарваных былых панскіх палацаў, касцёлаў і цэркваў. Усё прыпісалі акупантам – усе свае дурныя, бязглуздыя спажаранні і разбурэнні. Гэта не значыць, што не палілі і не руйнавалі нямецкія фашысты – і палілі, і руйнавалі страшэнна. Але гэта значыць, што ўся праўда аб тым, што было, што чынілася-рабілася на Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны, яшчэ не напісана. Яшчэ так і не сказана на ўвесь голас, чаму і адны і другія, і фашысты і антыфашысты – былі такія бязлітасныя да беларусаў і да багаццяў-скарбаў нашай матэрыяльнай культуры, да рукатворных помнікаў нацыянальнага генія народа. І не толькі, вядома ж, да рукатворных.

Год вучобы ў школе пад немцамі адзначыўся ў маёй свядомасці двума новымі момантамі, якія мелі, як я цяпер разумею, немалаважныя для мяне наступствы. Па-першае, усе ранейшыя, савецкія школьныя чытанкі і хрэстаматыі былі са школьнага ўжытку зняты, апынуліся пад забаронай (фактычна былі сабраны, рэквізаваны і знішчаны), і таму ва ўсіх класах нашай (цяпер ужо не сямігадовай, а пачатковай) школы мову і літаратуру дзеці вывучалі па выдаваным у Менску з восені 1941-га году часопісе «Беларуская школа», у якім усе матэрыялы (і метадычныя, і літаратурна-мастацкія) былі надрукаваны гэтак званай «тарашкевіцай». На «тарашкевіцы», дарэчы, друкаваліся і беларускія газеты, якія да снежня 1942-га даходзілі да нас, у Слабаду, і якія я з вялікай цікавасцю чытаў («Беларуская газэта», «Менская газэта»). Гэты адметны ад ранейшага правапіс роднай мовы, павінен прызнацца, прыйшоўся мне да душы, асабліва абазначэннем мяккасці зычных З, С, Л, Н, Ц на пісьме з дапамогай мяккага знаку (зьбіў, сьнег, гальлё, сёньня, жыцьцё). Нейкае падсвядомае нутраное чуццё як бы гаварыла мне, што гэтак пісаць лепш, што гэтак і трэба. За год вучобы я так прызвычаіўся да «тарашкевіцы» (гэтага тэрміна, вядома ж, я тады не чуў), што нейкі час яшчэ і пасля вайны ў маіх пісаннях праскокваў, як партызан-дыверсант, лішні мяккі знак і «пускаў пад адхон» жаданую, запланаваную ў амбітнай душы «пяцёрку».

Другое, што было пэўным шчаслівым адкрыццём для мяне ў тагачаснай вучобе, – гэта знаёмства з беларускім народным земляробчым календаром, з апісаннем нашых даўніх народных святкаванняў і звычаяў, абрадаў і гульняў, з узорамі абрадава-каляндарнай і сямейнай паэзіі, з гістарычнымі паданнямі і легендамі беларускага народа. Рэч у тым, што такога матэрыялу было багата ў названым часопісе, ды і газеты яго друкавалі, і што на ўсім гэтым акцэнтавалася на ўроках увага, чаго абсалютна, зусімніяк не рабілася ў школе да вайны. У савецкай школе гэтым займацца было нельга, ва ўсякім разе – у беларускай савецкай, бо на гэтае багацце народнай духоўнасці, народнай паэзіі вучылі глядзець як на нічога не вартую забабонную старыну, не толькі непатрэбную, але і шкодную, звязаную з беларускім буржуазным нацыяналізмам, і таму фактычна забароненую. Народныя лірычныя (пазаабрадавыя) песні спяваць і казкі расказваць (асабліва антыпанскія і антыцаркоўныя) – не забаранялася, яны ўваходзілі і ў вучэбныя праграмы, але каб старыя святы святкаваць і язычніцкія ці хрысціянскія абрады выконваць – крый Бог! Толькі хіба ўпотай, падпольна. А тут – пра ўсё гэта гаварылася не толькі адкрыта, але і з ухвалою, з заклікам адраджаць у жыцці свае старажытныя святы, звычаі, абрады. І трэба сказаць, што часовае адраджэнне пэўных, ужо прызабытых атрыбутаў нацыянальнага беларускага быту, святочных абрадавых дзействаў і рытуалаў мела, прынамсі ў нашым наваколлі, месца, заклік да яго быў пачуты і прыняты вясковай моладдзю з задавальненнем. Помню, як мне, страшэнна заінтрыгаванаму чуткамі, хацелася пранікнуць у перадкалядны вечар у хату да Маславых, дзе – усе ў вёсцы гэта ведалі – дзяўчаты «пякуць ката». І Каляды першай ваеннай зімы, і затым Вялікдзень, і Сёмуха, і Купалле святкаваліся па ўсіх канонах і правілах, як і ў былыя дакастрычніцкія часы. Усё гэта ўваскрашалася ў памяці і адраджалася ў вясковым побыце імгненна само сабой, без ніякіх распараджэнняў і загадаў. Зрэшты, садзейнічалі гэтаму і самі варункі акупацыйнага рэжыму – жыццё без кніг, без кіно, без радыё, а пачынаючы з восені сорак другога – і без школы. Разам з жорнамі, з самаробнай гарэлкай (самагонкай) і іншымі прадметамі старога быту ў жыццё вярталіся і старыя абрады, і даўнейшыя, амаль зусім забытыя, гульні-забавы, на вечаровых зборышчах моладзі не абыходзілася без розных прымхаў, варажбы і іншых забабонаў.

Быў у той першы год акупацыі і яшчэ адзін нечаканы прарыў маёй «зялёнай» свядомасці ў раней наглуха ад мяне схаванае і невядомае – у тую таямніцу, на якую было накладзена самае страшнае з усіх дзяржаўных табу савецкай эпохі: у праўду пра Сталіна, пра яго акружэнне і пра ўсталяваны пры ім у краіне палітычны рэжым. Забяспечылі мне гэты «прарыў» галоўным чынам мінскія беларускія газеты, якія дастаўляліся ў вёску бургаміструу нашай Слабодскай валасці Івану Бурбоўскаму і якія я, дзесяці- адзінаццацігадовы падлетак, згаладнелы па друкаваным слове, прагна чытаў. Рэч у тым, што гэты самы Бурбоўскі даводзіўся майму бацьку дваюрадным братам, быў мой стрыечны дазядзька (досыць блізкая радня). Я сябраваў з яго дзецьмі і пад выглядам «пагуляць» прыходзіў да іх у хату «пачытаць». Газеты, падшытыя ў стос, ляжалі на шырокай драўлянай канапе, і калі нават гаспадар быў дома – гартаць іх мне дзядзька Іван не забараняў. Чаго толькі на палосах тых «газэт» я не вычытаў – і пра наша жыццё пры «саветах», пад уладай «жыдоў і камуністаў», і пра зверствы Сталіна і яго апрычнікаў, і пра тое, як сілай загналі сялян у «калгасны рай», і пра гвалт над беларускай мовай і культурай, і, вядома ж, пра блізкую перамогу харобрых войск фюрэра над рэшткамі разбітай Чырвонай Арміі. Вельмі ўражвалі карыкатурныя выявы Сталіна і іншых кіраўнікоў савецкай краіны, часам страшэнна пачварныя і таму смешныя. Пасля ўсяго таго, што я чуў і чытаў пра Сталіна да вайны, – гэта здавалася нечым неверагодным і страшным, амаль нерэальным, і я падоўгу глядзеў на карыкатуры, як агаломшаны. Разумеў, нават і ў тым узросце, што гэта робіцца рукамі ворагаў нашай Радзімы, і аднак жа, аднак жа... штосьці ў свядомасць западала нейкай неразгаданай да часу загадкай.

# Польшча бароніць беларускую свабоду слова

Больш за паўтары тысячы подпісаў польскіх грамадзянаў сабрала "Gazeta Wyborcza" пад зваротам да А. Лукашэнкі, патрабуючы спыніць крымінальны перасьлед беларускіх журналістаў за крытыку ўладаў. 24-га лістапада зварот быў перададзены беларускай амбасадзе ў Варшаве. Такім чынам, завяршылася двухмесячная акцыя польскіх мэдыяў у абарону свабоды слова на Беларусі.

Яшчэ ў пачатку кастрычніка самая масавая польская "Gazeta Wyborcza" зьмясьціла цэлы шэраг публікацыяў, у якіх распавядала пра перасьлед журналістаў "Пагоні" й "Рабочага". Менавіта "Wyborcza" ініцыявала збор подпісаў пад лістом да беларускага прэзыдэнта з патрабаваньнем вызваліць вязьняў-журналістаў і адмяніць тры артыкулы Крымінальнага кодэксу, якія прадугледжваюць крымінальную адказнасьць за крытыку прадстаўнікоў улады.

Акцыю газэтчыкаў падтрымала й прыватная польская тэлевізія "Polsat", якая паказала цэлую сэрыю праграмаў на гэтую тэму: у тым ліку рэпартаж зь месцаў зьняволеньня П.Мажэйкі й М.Маркевіча.

На ініцыятыву польскіх журналістаў, растыражаваную накладам больш як паўмільёна асобнікаў, адгукнуліся вельмі знаныя асобы: да прыкладу, знакаміты польскі пісьменьнік Ч. Мілаш. Дзякуючы шырокай пагалосцы, якую атрымала акцыя, людзі з Польшчы пачалі ліставаць у месцы зьняволеньня беларускіх журналістаў.

25-га лістапада "Gazeta Wyborcza" падзякавала ўсім сваім чытачам за падтрымку. "Калі раней дэмакраты ў Польшчы траплялі за краты, нам заўсёды дапамагала замежная супольнасьць, - узгадвае галоўны рэдактар "Wyborczaj" Адам Міхнік. - І калі цяпер за нашай усходняй мяжой таксама знаходзяцца людзі, якія маюць патрэбу ў падтрымцы, мы абавязаныя ім дапамагчы".

Акцыя, зладжаная цэнтральнымі польскімі мэдыямі, была не адзінай хваляй пратэсту, што дакацілася да Беларусі з Захаду. Зусім нядаўна прэстыжную ўзнагароду міжнароднай арганізацыі "Рэпартэры бязь межаў" атрымаў тэлежурналіст зь Беласточчыны Юры Каліна - аўтар дакумэнтальнага фільма "Пагоня за праўдай", у якім таксама распавядалася пра гісторыю перасьледу гарадзенскіх журналістаў.

**Паважаныя чытачы "Беларускага Дайджэсту"! Калі ласка, не забывайце перасылаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты... Прыядноўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



Сяргей Дубавец, Вільня

# Віленская беларуская спадчына ўчора і сёньня

Публічны інтарэс да Вільні – старой сталіцы – больш-менш аформіўся ў Беларусі ў канцы васьмідзясятых. Старая сталіца, разьмешчаная ад Менску ў трох гадзінах язды, вабіла сваёй архітэктурай і бясконцай чарадою памятак несавецкай беларушчыны. Сюды прыяжджалі на зьезды, на спатканьні з жывымі носьбітамі даваеннага адраджэнства і проста так – на шпацыр, у пошуках праўдзівага гістарычнага духу, якога ў Менску не было. Тады, на мяжы васьмідзясятых і дзевяностых, марылася пра актыўны ўдзел віленскай спадчыны ў цяперашнім нацыянальным адраджэньні. І тое, што горад стаў адміністрацыйным цэнтрам іншай краіны і іншае нацыі, не выглядала перашкодай. Думалася больш пра духоўнае. Менавіта тады падсумаваньнем гэтых настрояў прагучалі радкі паэта Алега Мінкіна:

Скажы мне Вільня, хто твой сын законны,
Скажы, як разагнаць твой одум сонны,
Скажы, пра што маўчаць твае муры.

Але прамінула 10 гадоў. І як выглядае сёньня, сонным одумам аказаліся менавіта нашыя колішнія летуценьні. Вільня быццам адсунулася кудысьці на іншы кантынэнт, прыехаць сюды беларусу не прасьцей, чым у Парыж. На зьмену мясцовым віленскім адраджэнцам прыйшлі нацменскія клюбы. А ў Менску віленская спадчына ўжо не разглядаецца як неабходны сэгмэнт будаваньня сваёй незалежнай краіны, яе ідэалёгіі і культуры.

Словам, дачыненьні Вільні і Беларусі за апошнія 10 гадоў заўважна зьмяніліся. Дакладней, яны амаль што спыніліся. У чым тут прычына і наколькі даўгавечны такі накірунак разьвіцьця?

Натуральна, цяжкі доступ да старое сталіцы не дазваляе беларусам масава дападаць душою да сьвятых мясьцінаў, што ў рэальнасьці ілюструюць цэлыя разьдзелы нашых падручнікаў гісторыі і культуры. Віленскія замкі вялікіх князёў літоўскіх, палацы Сапегаў і Радзівілаў, храмы, апетыя ў дзясятках вершаў, будынкі, дзе друкаваў Скарына, дзе жылі і працавалі Купала і Колас, дзе ствараў свой хор Шырма, дзе былі "Наша Ніва", славутая Віленская беларуская гімназія, магілы Каліноўскага і Росы, турма на Лукішках, дзе мучыўся не адзін беларускі паэт... Няма канца гэтым жывым ілюстрацыям. Здаецца, адной толькі Вільняй можна праілюстраваць усё найважнейшае ў нашай гісторыі і культуры. Не кажу ўжо пра поўныя беларускага матэрыялу музэі, бібліятэкі і архівы, дзе некалі несупынна працавалі менскія навукоўцы. Цяпер такая праца – вялікая рэдкасьць.

Ня толькі памежным бар'ерам тлумачыцца згасаньне ў Беларусі інтарэсу да Вільні. Духоўны пачатак нацыянальнага адраджэньня мае на ўвазе і пэўны стаіцызм, трываласьць і цярпеньне. Пэўнае падзьвіжніцтва, якое не заўсёды лічыцца з фармальнымі рэаліямі і культывуецца, "ня гледзячы ні на што". Гэта вера беларуса ў сваё. Вера, якая не абяцае выгаду ці хуткага і нагляднага плёну. Але без такой веры адраджэньне не адбываецца.

Віленскі прыклад паказвае слабасьць гэтае самае веры. Ён вельмі паказальны. Ён з таго самага шэрагу, што і гістарычная сымболіка. Памятаецца ўражаньне, калі над Домам ураду ў Менску залунаў бел-чырвона-белы сьцяг, многія дзеячы адраджэньня адчулі радасьць і пры гэтым – недавер. Альбо ў сытуацыі з нацыянальнай школай, якая патрабуе сапраўды сізіфавай працы. І калі ўдаецца такі стварыць беларускамоўную клясу, яе трэба з дня ў дзень, з году ў год зьберагаць, ахоўваць, адстойваць. І мы ведаем, што колькі такіх новаствораных клясаў ня вытрывалі. Скажаце, быў прэсынг русіфікатараў? Так. Але на гэты прэсынг не знайшлося дастатковага духоўнага стаіцызму, трываласьці. Альбо вось прыклад з правапісам. Усе літаратары і журналісты ведаюць, што савецкі правапіс – штучна спрымітывізаваны і негарманічны, што за ягонай рэформай стаяць расстрэлы беларускіх мовазнаўцаў. Але не вяртаюцца да клясычных нормаў менавіта ад недаверу. Гэты самы недавер стаў прычынай і страты цікавасьці да Вільні. Калі ж сабраць усе гэтыя недаверы ў адно, атрымаецца недавер да самога беларускага адраджэньня. У сёньняшняй перадачы я паспрабую даць адказ на пытаньні – ці такая сытуацыя ўсталявалася назаўсёды і ці магчымае станаўленьне беларушчыны бязь віленскае спадчыны?

Гаворачы пра віленскую спадчыну, трэба мець на ўвазе, што вакол яе сыходзяцца інтарэсы літоўскае дзяржаўнае ўлады, беларускае дзяржавы і тых людзей, падзьвіжнікаў, якія звычайна падымаюць праблему, кіруючыся духоўным поклічам. Некалі віленскія беларусы, якія яшчэ ня сталі пачувацца нацменамі, досыць актыўна патрабавалі мэмарыяцыі беларускіх памятак. Рухавіком гэтай справы быў Лявон Луцкевіч. Яшчэ за савецкім часам ён дамагаўся, скажам, музэя ў будынку, дзе жыў Якуб Колас. Гэта ў цяперашнім Павільнісе, які калісь называўся Калёніяй. Там Колас пазнаёміўся са сваёй жонкай. Згадваю гэты эпізод, бо была прынятая нават пастанова Савету міністраў Літоўскай ССР пра тое, што музэю – быць. Справа цягнулася доўга, а пасьля сьмерці Луцкевіча энтузіязм актывістаў згас канчаткова. Цяпер гэтая ініцыятыва забытая, відаць, назаўсёды. Штосьці падобнае адбылося і з дамкамі ў цэнтры гораду, якія перадаў беларускім суполкам ужо літоўскі, незалежны ўрад. Стаўшы нацменамі, беларусы, як тое і мусіла быць паміж нацменамі, пасварыліся, з дамкоў сыйшло жывое жыцьцё, і зараз яны паступова ператвараюцца ў руіны.

Нейкі час спрабавала займацца захаваньнем спадчыны беларускае пасольства. Хацелі нават выкупіць дом слыннага мастака Пётры Сергіевіча, пасьля абмежаваліся мэмарыяльнай шыльдай на гэтым доме, а зараз няма і той шыльды. Лішне казаць, што пры цяперашнім стаўленьні да беларушчыны займацца зьберажэньнем памятак яшчэ й "недзе ў Літве" ўладам уяўляецца, мякка кажучы, немэтазгодным.

Словам, з усіх суб'ектаў працэсу засталіся толькі літоўскія ўлады. Іхны інтарэс да беларускіх памятак не духоўны, а, бадай, камунальны – трэба парадкаваць тэрыторыю. Маўчаць беларусы ў Менску, маўчаць віленскія суполкі і беларуская дзяржава пакуль таксама маўчыць.

Дзіўна, што пры такім усеагульным маўчаньні, тэма, як быццам, жыве сама сабою. Мяркую зь вельмі нэрвовай рэакцыі, якую выклікае ў Літве любая згадка пра беларускі культурны інтарэс. Нядаўна ў тутэйшых мэдыях здарыўся цэлы скандал з нагоды акурат нашай перадачы – "Вострай Брамы". Тую праграму рыхтавала гісторык Таццяна Поклад. Ёй словы:

"На пачатку жніўня ў "Вострай Браме" мы гаварылі пра археалягічныя раскопкі ў старой Вільні. У прыватнасьці, беларускі гісторык Алег Трусаў казаў, што літоўцы капаюць Вільню неахвотна, толькі калі ў запаведным месцы трэба нешта пабудаваць. А неахвотна яны гэта робяць, бо знаходкі разбураюць міты пра спрадвечную літоўскасьць Вільні і выкрываюць славянскую, дакладней, беларускую мінуўшчыну гэтага гораду. Яшчэ ў той перадачы гаварылася, што беларускім гісторыкам няма доступу ані да гэтых раскопак, ані да іхных аб'ектыўных вынікаў. І вось болей чым праз месяц пасьля выхаду "Вострай Брамы" зьявіліся водгукі ў літоўскіх мэдыях. Усе паведамленьні радыёстанцыяў і ў інтэрнэце грунтаваліся на перakaзе артыкула ў штодзённіку "Lietuvos rytas", які мае найбольшы наклад у Літве.

Артыкул Саўлюса Ярмаліса мае кідкую назву – "Сталічным археолягам – плявок ад беларусаў". Вось пачатак: "Рабочыя, якія працуюць на рэканструкцыі пр. Гедыміна і не здагадваліся, што іх праца можа спрычыніцца да міжнароднага скандалу. На прадмет працаў на цэнтральных вуліцах места скрыгочуць зубамі ня толькі некаторыя літоўскія палітыкі і гісторыкі, але й суседзі беларусы".

Суседзі беларусы таксама абвінавачваюцца ва "ўзьнятым шуме", у нападзе, "якога ад беларусаў не чакалі" і нават у спробе адабраць у Літвы знойдзены скарб манэтаў. Пішацца пра тое, што гісторыкі зь Беларусі прысвойваюць літоўскія манэты на той падставе, што на манэтах славянскія надпісы. Літоўская афіцыйная гісторыяграфія дзяржаўную мову ВКЛ называе "канцылярскай мовай " альбо "славянскай мовай". Словаў "беларуская" або "старабеларуская" не ўжывае.

Там, дзе нават літоўскім гісторыкам уяўляецца немагчымым пазьбегнуць згадак пра беларускае, падаюцца тлумачэньні. Аўтар размаўляў з тымі літоўскімі гісторыкамі, якія бралі ўдзел у нашай перадачы – Гедымінасам Вайткявічусам і Гінтаўтасам Рацкявічусам. Др. Вайткявічус патлумачыў: "цьверджаньне, што Вільня 500 гадоў была сталіцай продкаў сучасных беларусаў, па сутнасьці, слушнае. Цяперашняя беларуская тэрыторыя была часткай ВКЛ у 14-18 ст. Адно, што беларусы трактуюць ВКЛ не як літоўскую, а як беларускую дзяржаву".

У цяперашняй Літве досыць балюча ўспрымаюць найменшыя папрокі ў абыякавасьці літоўцаў да Вільні. Што тычыцца археалягічнай няўвагі да Вільні, дык гэта можа абмяркоўвацца на прафэсійным узроўні – бо просты пералік дасьледаваных і недасьледаваных аб'ектаў мала пра што сьведчыць. Пра тое, што цяперашнія раскопкі былі ня плянавыя, а выкліканыя знаходкамі будаўнікоў, распавялі самі літоўскія археолягі.

Літоўскі журналіст усьлед за літоўскімі гісторыкамі, супрацьстаўляе беларускасьць і эўрапейскасьць Вільні – маўляў, беларускасьць выключае эўрапейскасьць і наадварот. Тут якраз і палягае непаразуменьне, бо насамрэч беларускія, крывіцкія археалягічныя помнікі ніякім чынам не абвяргаюць эўрапейскасьць Вільні.

Літоўскія мэдыі падалі і дакладныя цытаты зь перадачы са спасылкай на інтэрнэт-старонку Радыё Свабода, так што калі літоўскамоўная аўдыторыя патрапіць не спакусіцца кідкімі фразамі наконт "скандалу" і "нечаканага ўдару", то можа зразумець і сэнс нашае перадачы".

"Сапраўды, рэакцыю на нашу перадачу ня можна назваць адэкватнай. Палемікі не адбылося, бо беларускія і літоўскія гісторыкі і журналісты існуюць на несудакранальных кантынэнтах. Абмен думкамі роўны нулю. Таму ў лепшым выпадку пры кантакце адбываецца кароткае замыканьне, сварка. Што і адбылося.

Чаму? Таму што беларусы і літоўцы напісалі дзьве зусім розныя гісторыі адной той самай сярэднявечнай краіны – Вялікага Княства Літоўскага – у якой продкі сучасных беларусаў і літоўцаў жылі разам на працягу 500 гадоў. Сталіцай ВКЛ і была Вільня.

Гэта зусім не ўнікальная сытуацыя, калі розныя народы ствараюць канфліктныя гістарычныя міты. Канфліктнасьць пераадольваецца шчылынымі кантактамі, якіх у нашым выпадку амаль няма.

Што да захаваньня памятак, дык сёлета ў Вільні зьнесьлі вядомы ў беларускай гісторыі дом на вуліцы Віленскай. Некалі мы гаварылі ў "Вострай Браме" і пра яго. Колішняя бібліятэка Даніловіча, дзе працаваў Янка Купала, колішняя рэдакцыя газэты "Гоман" і Беларускага Нацыянальнага Камітэту, колішняя сядзіба братоў Луцкевічаў – Івана і Антона. Гэта акурат той дом, дзе была прыдуманая Беларуская Народная Рэспубліка і адкуль ідэя была імпартаваная ў Менск. Цяпер на месцы гэтага будынку – глыбокі катлаван. Будуюць падземную аўтастаянку. Гэта значыць, што не застанецца ня тое што падмуркаў, а нават культурнага слою.

Гледзячы на маштабны навабуд, я думаю пра тое, што ніхто ні ў Вільні, ні ў Менску ні на якім узроўні ня выказаў цікавасьці да гэтага будынку. Ня тое што пратэсту супраць зносу, а проста – згадкі, разьвітальнага слова пра колішні штаб беларускага жыцьця, прычым ня толькі віленскага, а беларускага ў той час увогуле.

Зразумела, што такую цікавасьць меліся выказаць беларуская дзяржава, менскія навукоўцы, віленскія актывісты. Прамаўчалі. Дзяржава – таму што не дасьпела да такога клопату. Навукоўцы ад згаданага напачатку перадачы недаверу. Актывісты – ад таго, што сталі нацменамі, а дзейнасьць нацменаў, у адрозьненьне ад адраджэнцаў, заўсёды аб'ектыўна скіраваная на сябе, на патрэбы суполак і іхных сяброў, а не на вонкі. Таму мне нічога не застаецца, як схапіцца за саломіну – а ці мусіла дбаць пра такія памяткі дзяржава літоўская?

Вільня спрадвеку шматнацыянальная, шматмоўная і шматканфэсійная. Такі сабе культурны кацёл, зь якога выйшлі найбуйнейшыя прадстаўнікі многіх культураў. І таму мець у гэтай сёньняшняй літоўскай сталіцы польскі дом або жыдоўскі дом або беларускі дом – арганічна для самой прыроды гэтага гораду.

Тут нават не надаецца той прынцып, што, скажам, прадстаўнікі пэўнай нацменскай суполкі хацелі б ушанаваць памяць свайго супляменьніка і зьвяртаюцца да ўладаў з просьбай аб дазволе. Такая нібыта нармальная для якога іншага гораду практыка ў Вільні выглядае нелягічна. Вядома, шмат залежыць ад той філязофіі, якую абіраюць гарадзкія ўлады. Перафразуючы Каліноўскага, можна было б сказаць – ня горад для ўраду, а ўрад для гораду. У нашым выпадку літоўскія ўлады мусілі б дбаць пра ўсю шматкультурную спадчыну Вільні. Прэцэдэнты такога клопату ёсьць, але з гэтых прэцэдэнтаў яшчэ не складаецца філязофія.

Калі мы гаворым пра віленскага першадрукара Францішка Скарыну, мы гаворым пра абсалютна цэнтральную віленскую постаць, няхай сабе ніякім чынам не датычную да літоўскага этнасу і літоўскай культуры. Калі ж мы скажам, што Скарына – беларус, і значыць, дбаць пра ягоную памяць мусяць беларускія суполкі, мы самую гэтую памяць уразаем да прыватнага клопату ці няклопату, жаданьня ці нежаданьня пэўнай суполкі. Хоча яна біць у звон – няхай б'е, ня хоча – тым спакайней. Але Скарына ніколі ня быў у Вільні нацменам. Тое самае можна сказаць і пра канцлера Сапегу, да прыкладу, які таксама ня быў этнічным літоўцам і складаў Статут Вялікага княства на старабеларускай мове.

Напэўна, нейкія маргінальныя зьявы гісторыі і культуры могуць быць аддадзеныя на водкуп і жаданьне ці нежаданьне суполак. Але зьявы цэнтральныя мусяць ушаноўвацца ўладамі.

У Вільні шмат такіх зьяваў, што ніяк ня ўпісваюцца ў літоўскую канцэпцыю гісторыі, але пры тым – абсалютна важныя для самога гораду. Ёсьць сярод іх і чыста віленскія, якія могуць выпадаць з усіх гістарычных мітаў. Як, да прыкладу, бітва ў Панарскіх гарах 1931 году, у якой загінулі некалькі соцень расейскіх салдат і многія сотні паўстанцаў. А ёсьць і такія, што маюць, скажам, беларускую прыкмету. Да прыкладу, месца пахаваньня 15 паўстанцаў 1863-64 гадоў на Замкавай гары, сярод якіх ёсьць і цела Кастуся Каліноўскага. На магіле нацыянальнага героя Беларусі няма ані знаку. Часам гэта тлумачаць тым, што

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



Каліноўскі ня мае дачыненьня да літоўскай гісторыі або культуры. Але для гісторыі Вільні ён не маргінал, а цэнтральная постаць. Такія прыклады можна доўжыць. Гаворка ідзе пра тое, што літоўская ўлада не заўсёды выступае апякункай таго гораду і той шматнацыянальнай спадчыны, якая дасталася ёй воляю геапалітычных ракіровак XX стагодзьдзя .

Шмат гадоў назіраючы за беларускімі памяткамі Вільні, за тым, як то запальваецца, то згасае цікавасьць да іх, прыходжу да высновы, што імпульс гэтай цікавасьці мусіць заўсёды сыходзіць ад падзьвіжнікаў – ці то ў Менску яны знаходзяцца, ці ў Вільні. Гэты імпульс мусіць быць слушна зразуметы беларускай уладай і пераплаўлены ў форму нацыянальных інтарэсаў. А ўжо беларуская ўлада мусіць выходзіць у гэтай справе на ўладу літоўскую, якая непасрэдна апякуецца віленскай спадчынай. Калі запрацуе такая схема, тады перастануць зь віленскіх дамоў бясьсьледна зьнікаць беларускія мэмарыяльныя табліцы, а на магіле нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага зьявіцца памятны знак.

Што да будаваньня беларушчыны бязь Вільні, дык, на маю думку, яно будзе нагэтулькі ж плённым, як і будаваньне беларушчыны бязь веры. І калі разважаюць, быццам Вільня далёка, за бар'ерам, а будаваць трэба з таго, што маеш пад рукой, я раю ўзяць у рукі падручнікі ды энцыкляпэдыі беларускае гісторыі і культуры. З усіх народаў, што ўдзельнічалі ў стварэньні гэтага фэномэну – Вільні – хіба што яшчэ ў літоўцаў гэты горад займае такое абсалютнае месца ў станаўленьні нацыі. Мяжа мяжою, а душа душою.

************************************************

# Вільня

Кожная дзяржава стварае легенду вакол сваёй краіны. Мінулае, сучаснае, нацыянальныя героі, помнікі культуры ды архітэктуры, захаваньне традыцыяў(стварэньне). Гэта нармалёва. Няма ніводнай краіны ў Эўропе, дзе ня трэба было б выпраўляць хібы гісторыі. Гэтым і займаецца дзяржава. Кожная дзяржава на гэтым кавалку сьвету, акрамя Беларусі.

Вільня. Адчуваеш сябе на акупаванай тэрыторыі. Гэта наш родны горад па якім ходзяць людзі, якія ня ведаюць нашую мову, робяць выгляд што не разумеюць расейскую, ды робяцца вельмі ветлівымі калі чуюць ангельскую, але ня здольны на ёй ані размаўляць ані зразумець таго што ім кажаш.

Літва стварае сваю легенду. Вільня - літоўскі горад, гэта сталіца, яна заўжды была літоўскаю, Літва правапрыемнік ВКЛ. Ды шмат што іньшае. Але гэта дробязі. Сярод беларусаў склаўся (дакладней яго склалі) гэткі міт. Літоўцы ненавідзяць расейцаў, да беларусаў адносяцца са спачувальнасьцю, яны любяць Вільню, сочаць за ёю, шануюць старажытную спадчыну. Гаўно ўсё гэта. Сапраўды літоўцы ненавідзяць расейцаў але іхнія адносіны да беларусаў куды горш. Яны нас жахаюцца. Яны скралі нашую гісторыю, нашую сталіцу, наш герб. Літва вядзе агрэсыўную культурніцкую палітыку захаваньня (чытай стварэньня) гістарычнай спадчыны. Яны разумеюць што калі інфантыльная Беларусь вырашыць не тармазіць ды вернуць сабе тое што ёй належыць, то ад створанага Літвою міта нічога не застанецца.

А тое што за Вільняй даглядаюць дык гэта ўвогуле ... за нашам Траецкім ды то дагляд лепшы. На дадзены момант Беларусь не вядзе зьнешняе культурніцкае палітыкі. Мы не ствараем прыгожае міты вакол нашае краіны, не рэстаўруем(будуем) сярэднявечныя замкі што пазаставаліся на нашай тэрыторыі. Мы не змагаемся за тое што яшчэ 50-60 год таму належыла нам.

50 год - не тэрмін дзеля гісторыі. Гэта выдатна разумеюць і літоўцы. Калі Беларусь пачне агрэсыўную зьнешнюю культурніцкую палітыку з PR-акцыямі, моцнай рэклямай, подкупамі замежных чыноўнікаў ды мастацтвазнаўцаў, то ўжо год праз 10-15 ніхто й не ўзгадае пра шэрую замызганую краіну. Перад вачыма Эўропы будзе прыгожая зямля з мінулым і сучасным, вартым увагі ды павагі.

А яшчэ год праз дзесяць нашыя суседзі самі (пад уплывам НАТА й ААН) прапануюць аддаць нам наш горад ды навакольныя вёскі.

************************************************

==========================

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ...

**Мы атрымалі наступныя выданьні:**

1. **Casapis**, Беларускі грамадзка-культурны месячнік у Польшчы. № 11, Беласток, 2002, 44 бач.
2. **Роднае Слова**, № 9, 2002, Менск, 114 бач.
3. **Кантакты і Дыялогі**, № 9, 2002, Менск, 64 бач.
4. **Belarusian Review**. № 2, Summer 2002, 32 бач.
5. **Прамень**. № 23, 2002, Quebec. Canada, 46 бач.
6. **Беларускі Гістарычны Зборнік**. № 17, Беласток, 2002, 310 бач.

## На радзіму вяртаецца яшчэ адзін пасол Беларусі.

### Гэтым разам з экзатычнай Японіі...

Указам Аляксандра Лукашэнкі вызвалены ад пасады Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь ў Японіі і на Філіпінах па сумяшчальніцтву **Пётр Краўчанка**.

Пра прычыны вызваленьня Пятра Краўчанкі ад пасады беларускага амбасадара ў Японіі ў тэксьце прэзыдэнцкага Указу не паведамляецца. Неафіцыйныя тлумачэньні замежнапалітычнага ведамства пра ўсіх адкліканых амбасадараў звычайна стандартныя - ідзе плянавая ратацыя.

Але, як паказвае практыка, пасьля так званых "плянавых" вызваленьняў беларускіх амбасадараў даволі доўга іх месцы ў замежных краінах застаюцца вакантнымі. Так, амаль год пустуе месца пасла ў беларускай амбасадзе ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Пасьля вызваленьня Валерыя Цапкалы ў лютым 2002 году амбасадар Беларусі ў ЗША дагэтуль не прызначаны. Пасьля вызваленьня Натальлі Дрозд ад пасады амбасадара ў Італіі ў Рыме месца таксама застаецца вакантным. Паўтара года пустуе месца беларускага амбасадара ў Латвіі - папярэдні амбасадар Міхаіл Марыніч яшчэ ўлетку 2001 года, перад прэзыдэнцкімі выбарамі, падаў прашэньне аб вызваленьні з пасады амбасадара. У гэтых краінах прызначаныя Часовыя паверааныя ў справах Беларусі. Цяпер вось вызвалены Пётр Краўчанка.

Асоба спадара Краўчанкі даволі цікавая і супярэчлівая. Гісторык па адукацыі, даволі працяглы час - з 1975 па 1990 - ён працаваў на партыйнай рабоце. Цягам шасьці гадоў быў сакратаром Менскага гаркаму партыі па ідэалёгіі. З 1990 году да абраньня першага беларускага прэзыдэнта ў 1994-м Краўчанка - міністар замежных справаў Беларусі. Пасьля абраньня Аляксандра Лукашэнкі прэзыдэнтам, на некаторы час спадар Краўчанка сышоў у цень (нагадаем, ў ліпені 1994 года Лукашэнка зьмяніў амаль увесь кабінэт міністраў, кіраўніком беларускага замежнагапалітычнага ведамства прызначаны быў Уладзімір Сянько). Пётр Краўчанка амаль на год адышоў ад актыўнага палітычнага жыцьця. У 1995 годзе былы камуніст па перакананьнях Краўчанка ўступіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду. Крыху пазьней быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня, ачоліў Пастаянную парлямэнцкую камісію па міжнародных справах. Пасьля фактычнага разгону Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня ў лістападзе 1996 году ў прызначаную Лукашэнкам Палату прадстаўнікоў спадар Краўчанка не ўвайшоў. Але да жорсткай апазыцыі ўладам, як бальшыня дэмакратычна скіраваных дэпутатаў ВС 13 скліканьня, таксама не далучыўся. Афіцыйна лічыўся экспэртам Нацыянальнага цэнтру стратэгічных ініцыятываў "Усход-Захад". Амаль два гады пра спадара Краўчанку амаль нічога не было чуваць. Былыя калегі па Вярхоўным Савеце жартавалі: "заціхарыўся, залег на дно"...

І зусім нечакана ў 1998 годзе Пётр Краўчанка быў прызначаны Надзвычайным і паўнамоцным пасольм Беларусі ў Японіі. Краіна Японія для беларусаў даволі экзатычная, дый знаходзіцца не блізка. Ніякіх афіцыйных візытаў ні японскага кtраўніцтва да нас, ні беларускага ў Японію за гэты час не адбывалася. Толькі абмены неафіцыйнымі дэлегацыямі, японская гуманітарная дапамога Чарнобылю, культурніцкі абмен. Так непрыкметна і адбыў спадар Краўчанка ў "ганаровай высылцы" ў далёкай Краіне Ўзыходзячага Сонца чатыры гады... Знаходзячыся ў Беларусі ў адпачынку ці па справах, нават з былымі блізкімі сябрамі і калегамі Краўчанка не кантактаваў. Спачатку некаторыя пакрыўдзіліся, а потым прызвычаіліся. Цяцер вось "ганаровая высылка" так жа нечакана скончылася. Краўчанка вяртаецца на радзіму...

****************************************************

## Кіраўнік Беларускага КДБ Леанід Ерын лічыць, што цягам апошніх гадоў выразна павялічылася зацікауленьне замежных разьведвальных службаў беларускім абаронным патэнцыялам.

Паводле яго, найбольшую актыўнасьць праяўляе разьведка Злучаных Штатаў Амэрыкі. У інтэрв'ю для аднаго зь беларускіх інфармацыйных агенцтваў, кіраўнік беларускага КДБ заявіў, што праца амэрыкаскай разьведкі часта праходзіць пры ціхім дазволе Менску. Паводле Ерына, каля 20-ці амэрыканскіх дыпламатаў працуе на разьведвальныя службы- гэта амаль палова дыпляматычнага пэрсаналу амбасады ЗША ў Менску.

А хто сам Л. Ерын? Гэта рускі экавудзіст і агент Масквы ў Беларусі...

## ВЫЯСЬНЕНЬНЕ...

У папярэднім № нашае газэты была зьмешчаная заметка "Чатыры залатыя мэдалі з Амэрыкі". Як нам паведамілі, у заметцы адсутнічала вельмі істотная справа — гэта справа спонсарства прыезду ў Амэрыку.



Вось-жа ўсім гэтым займалася вядомая сп-ня **Ірэна Каляда-Сьмірноў**. Гэта яна ўзваліла на свае плечы ўвесь цяжар клопату па запрашэньні іх на спаборніцтва ў Галівуд.. Гэта яна клапацілася пра білеты: замовіла і купіла іх. Гэта яна рупілася пра размяшчэньне беларускіх удзельнікаў у адным з лепшых гатэляў у Галівудзе. Гэта яна дбала пра ежу, падарункі... Гэта яна, **Ірэна Каляда-Сьмірноў** уклала свае асабістыя грошы дзеля гэтай імпрэзы... Пра гэта трэба ведаць, а не замоўчваць праўду, як гэта робіць прэса на Бацькаўшчыне.

За тваю, Ірэна, працу належыцца Табе вялікая падзяка!

************************************************



## Віншуем

з 87-мі ўгодкамі жыцьця

## а. прот. Максіма Таўпеку

беларускага сьвятара і патрыёта з Канады. Жадаем яму добрага здароўя ды усяго найлепшага ў жыцьці і штодзённым быцьці.

**Многія Лета!**

=========================

## Паводле непацверджаных даных, прадухілены замах на Пуціна

Супрацоўнікі міліцыі, якія нясуць службу на Рублёва-Успенскай шашы, у трубе пад праезнай часткай знайшлі тры заводскія жалезныя скрыні з узрыўчаткай агульнай вагой 40 кг. Аб гэтым паведаміла інфармацыйнае агенцтва Regnum, на якое спасылаюцца і іншыя інфармацыйныя агенцтвы.

Паводле даных агенцтва, узрыўчатка была выяўлена ў раёне чыгуначнага пераезду на лініі Усава—Масква—Беларуская. У ФСБ і прэс-службе прэзідэнта Расіі не пацвярджаюць гэты факт.

Як паведамляе агенцтва, напярэдадні спецслужбамі была атрымана інфармацыя аб замаху на жыццё Пуціна. У ходзе следчых дзеянняў удалося ўстанавіць месца мяркуемага тэракта. Там і была знойдзена ўзрыўчатка. Таксама вядома, што напярэдадні ў гэтым месцы ішла работа невядомых асоб па ўстаноўцы новых рэкламных шчытоў. У сувязі з інцыдэнтам прэзідэнт Расіі, маўляў, паехаў у сваю загарадную рэзідэнцыю па іншай дарозе.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## ДАЛЯР ЗША ДАСЯГНУЎ АДЗНАКІ 1.915 БЕЛАРУСКІХ РУБЛЁЎ

Курс даляра ЗША да беларускага рубля вырас на ўсіх сэгментах валютнага рынку.

************************************************

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



 *Сьв. Памяці* 




## Уладзімір БРЫЛЕЎСКІ

16. XIII. 1917 — 1. XI. 2002

Адыйшоў у вечнасьць сябра майго жыцьця на працягу 60-ці гадоў і верны змагар за дабро свайго народу.

Нарадзіўся ў вёсцы Лоска, вёсцы Сымона Буднага. Дзяцінства і маладыя гады правёў у Залесьсі, каля Смаргоняў, сярод алеяў парку князя К. Агінскага, дзе фармавалася любоў да прыроды, веды, Бацькаўшчыны.

Пасьля заканчэньня пачатковай школы ў Залесьсі, рэкамэндацыямі кіраўнічкі школы, паступіў у школу "Господарства вейского" ў Варшаве. Практыку па аграноміі адбываў у Дзяржаўным Навуковым Інстытуце ў Пулавах. Вайсковую службу адбыў у кадэцкай школе ў Дэмбліне. Да верасьня 1939 году працаваў у характары практыканта ў аддзеле тэлеграфу ў Акруговай Дырэкцыі дзяржаўнай чыгункі ў Вільні.

З прыходам Саветаў і анексіі Зах.Беларусі да Сав. Саюзу, працаваў аграномам у Зямельным аддзеле ў Маладэчне. З прыходам нямецкай акупацыі кінуўся ў вір беларускага адраджэньня. Наперад як войт у Лебедзеве, пазьней як начальнік Смаргонскага ды Жодзінскага раёнаў. У 1944 годзе як карэктар часопісу "Новы Шлях" у Рызе, Латвія. У сьнежні 1944 г. вывезены немцамі ў Нямеччыну. Стараньнямі цёткі Асташонак прыехалі ў 1949 г. у Амэрыку і пасяліліся ў Саўт Рывэр. Цяжка працуючы на канвееры самаходаў у фабрыцы Форда — сьцягваў людзей-беларусаў з Нямеччыны, Англіі, Бразіліі. Усіх 43 асобы, якія сталіся асновай беларускай калёніі і парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры.

У 1967 годзе кідае працу ў Форда, каб дапамагчы жонцы ў працы пры матэлі ў Голівуд, Флярыда.

Ад 1976 году становіцца сталым супрацоўнікам паважнага польскага часапісу ў Парыжы— "Культура", на балонках якога друкуюць "Беларускую Кроніку", а таксама інфармуе сьвет на ламах беларускіх і польскіх газэт у Амэрыцы.

У 1994 годзе, купаючыся ў акіяне, атрымоўвае завал сэрца /інфаркт/. Прайшоў апэрацыю сэрца /4-бай-пасс/, падчас якой атрымаў строк /інсульт/. Памёр у сьне.

"Сьпі пад курганам герояў,
сьпі працаўнік і змагар.
Несены верна Табою
Нізка схіліўся штандар".

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

*Лёнгіна Брылеўская.*

Замiж кветак на сьвежую магілу Леанарда Норыка складае на фонд газэты:

Вольга Яськевіч — $50.oo.

Замiж кветак на сьвежую магілу Ўладзіміра Брылеўскага складае на фонд газэты:

Ніна Кіт — $50.oo

Дзякуем!

# Сьвята ў Чыкага,

## прысьвечанае знамянальным юбілеям гэтага году



Песьня "Дудачка мая" ў выкананьні Андрэя Васіленкі і Ўладзіміра Вераб'ёва.

Прадстаўнікі розных хваляў эмігрантаў з Беларусі, што жывуць у Чыкага і прыгарадах, сабраліся ў нядзелю 24 лістапада ў рэлігійна-культурным цэнтры пры Беларускай праваслаўнай царкве сьвятога Юр'я. Сьвята было прысьвечана знамянальным юбілеям дзеячоў культуры, творчасьць якіх непарыўна зьвязана з беларускай зямлёй: 120-гадьдзю нашых вялікіх песьняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа, 115-гадьдзю найцудоўнейшага мастака Марка Шагала і 90-гадьдзю аднаго з бліскучых майстроў віцебскай мастакоўскай школы Хаіма Ліўшыца, які ў апошнія гады свайго жыцьця жыў і працаваў у Чыкага. Усе гэтыя юбілейныя даты прыпадалі на гэты год.

Пасьля царкоўнай службы, выступаючы на пачатку сьвята, яго арганізатар айцец Дзмітры Башко назваў гэты фэст урачыстым актам, асабліва падкрэсьліўшы важнасьць стваральнай еднасьці і творчых зносін людзей самых розных духоўных канфесій, якія праз усё жыцьцё нясуць любоў да Беларусі і яе спадчыны. Прачытаўшы верш Янкі Купалы "Зашумела гулка восень…", ён настроіў усіх прысутных на лірычны лад, навеяны незабыўнымі вобразамі роднай зямлі.



Спадар Міхась Клейнер выконвае ўласны раманс на словы Янкі Купалы.

Вялікі сьвяточны канцэрт распачаў беларускі нацыянальны вакальна-інструмэнтальны гурт у складзе: Уладзімір Вараб'ёў (акардэон, кіраўнік гурта), Ірына Грыгаровіч (цымбалы), Андрэй Васіленка (альт), Валеры Явар (флейта) і Пятро Кляпацкі (ударныя). Гучалі папулярныя беларускія мелёдыі, песьні, танцы. Асаблівым посьпехам карысталіся выкананыя гэтым гуртам песьні "Братка Беларус", "Ад панядзелка да панядзелка", інструментальныя нумары "Вясельны марш", "Лявоніха" ды іншыя. Танчылі амаль усе, хто прыйшлі на гэты фэст.

Вядомы ў Чыкага кампазытар і паэт Міхась Клейнер з велізарнейшым пачуцьцём і глыбокім пранікненьнем у вобразную структуру паэтычных тэкстаў выканаў напісаныя ім рамансы на вядомыя вершы "О Беларусь, мая шыпшына" Уладзімера Дубоўкі, "Я ад вас далёка" Янкі Купалы і "Якія вы ўсе маладыя" Генадзя Бураўкіна. З захапленьнем сустрэлі ўсе на сьвяце Алену Бярнат, якая выканала славутыя беларускія народныя песьні "Купалінка" і "Ажаніла маці маладога сына". У канцэрце прынялі ўдзел таксама сьпевакі Ноах Марсэлл і Галіна Паўлава. Амэрыканскі нацыянальны гімн прасьпявала зусім яшчэ юная Ганна Васіленка.

І зноў пранікнёна гучаў у гэтай зале Янка Купала: адзін з вядомых ветэранаў беларускай эміграцыі Міхась Каленік прачытаў вершы "Раніца ў нядзельку" і "Над Нёманам". У гэты дзень у зале была спецыяльна разгорнута мастацкая экспазыцыя, на якой былі выстаўлены карціны мастака Х.Ліўшыца "Я.Купала і ягоная Муза", "Я.Купала і К.Чорны ў Пячышчах у 1942 годзе", а таксама яго цудоўныя пейзажныя палотны, на якіх – краявіды Віцебска і другіх прыгожых мясьцін Беларусі.

**Ванкарэм Нікіфаровіч, Чыкага.**

## Акцыя : " Мы чакаем вас!"

10 снежня роўна 100 дзён, як журналісты ПАГОНІ Павал Мажэйка і Мікола Маркевіч знаходзяцца за кратамі. Але ПАГОНЯ жыве. Жыве, дзякуючы менавіта Вашай салідарнасці, Вашай мужнасці і неабыякавасці.

Няхай да гэтага тэрміну сябры вашай арганізацыі, вашыя родныя, знаёмыя, суседзі дашлюць журналістам па простай паштоўцы.

Журналісты за кратамі адчуваюць вашую падтрымку.

1 лістапада па рэспубліцы прайшла акцыя "Хлопцы, мы з вамі", у рамках якой Павал Мажэйка і Мікола Маркевіч атрымалі больш 200 паштовак з цеплымі словамі ад простых грамадзянаў краіны. Калі з 10-мільённай беларусі кожнаму з вязняў прыйдзе хоць па 1000 паштовак – гэта таксама будзе паказчыкам уплыву арганізацыяў на грамадства.

*"Лісты, што прыхозіць да нас з Міколай з усёй Беларусі - гэта не толькі вялізарная маральная падтрымка. Нашыя суддзі, пракуроры і турэмшчыкі пачынаюць разумець, што за іхнымі дзеяннямі сочыць пільнае вока беларускага грамадства. Гэтыя лісты для іх, як "чырвоныя сцяжочкі", - сказаў Павал Мажэйка.*

Да Паўла Мажэйкі
247210
Гомельская вобласць,
г.Жлобін, мікрараён №3,
д 3, пакой 208
Беларусь.

Да Міколы Маркевіча
213760
Магілёўская вобласць,
г. Асіповічы, вул Сумчанкі,
38, пакой 434
Беларусь

## РЫЧАРД БАРТКЕВІЧ АСУДЖАНЫ Ў ЗША ЗА ПАДРОБКУ ГРОШАЙ

*Сын алімпійскай чэмпіёнкі Вольгі Корбут і сьпевака Лявона Барткевіча Рычард прызнаны вінаватым у вырабе фальшывых грошай і асуджаны амэрыканскім судом.*

"Як паведаміла агенцтва Associated Press, Рычард Барткевіч прысуджаны да амаль трох з паловай гадоў пазбаўленьня волі за падробку 20 тысячаў амэрыканскіх даляраў.

23-х гадовы Рычард прызнаў сябе вінаватым у верасьні. Ён прызнаўся, што падрабляў грошы з дапамогай кампутара. Намесьнік шэрыфа знайшоў фальшывыя стодаляровыя купюры ў сямейным доме Барткевічаў у прадмесьці Атлянты, калі спрабаваў даставіць былому мужу Вольгі Корбут, Лявону Барткевічу ордэр на высяленьне.

Паводле закону, Рычарду пагражала да сямі гадоў пазбаўленьня волі ў фэдэральнай турме. Частка тэрміну пакараньня, аднак, магла прыпасьці на папраўчую калёнію. Таксама існуе пагроза дэпартацыі Рычарда Барткевіча са Злучаных Штатаў.

Падчас абвяшчэньня прысуду судзьдзя Овэн Форэстар сказаў Рычарду: "Ваша маці прайшла праз столькі выпрабаваньняў, каб стаць алімпійскай чэмпіёнкай. Вы таксама маеце шанец выйсьці з гэтай сытуацыі пераможцам, калі заплаціце свой доўг перад грамадзтвам". У дадатак да пакараньня зьняволеньнем судзьдзя загадаў Рычарду выплаціць амаль 5 тысяч даляраў тым крамам, дзе Рычард пасьпеў патраціць частку падробленых грошай…

"Вядома, сумна, што чарговая згадка пра Беларусь ідзе ізноў у нэгатыўным кантэксьце. Аднак афіцыйнай рэакцыі ад беларускіх арганізацый у ЗША на прысуд Рычарду Барткевічу не было. Сям'я Корбут-Барткевічаў ужо даўно не кантактавала зь беларускімі арганізацыямі ў Злучаных Штатах".

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018